# Слабыя месцы Савецкага Саюзу

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

сыстэмы. Усьведамленьне гэтага стану, што ўсё тое, аб чым крычала савецкая прапаганда, было хвальшам, а сам савецкі лад і савецкая сыстэма зьяўляецца найгоршай формай нявольніцтва, вызыску, зьдзеку й галіты, мусіла ўвесь лепшы, ні здэмаралізаваны яшчэ да канца элемэнт падсавецкіх людзей настроіць варожа да савецкага рэжыму або, у найлепшым для бальшавікоў выпадку, зьнішчыць усякі да іх давер. Гэта бясспрэчна зьяўляецца наступнай Ахілесавай пятой Савецкага Саюзу.

4. Заходні сьвет моцна спадзяваўся і навет верыў, што пасьля сьмерці Сталіна ў Крэмлі мусіць разыгрыцца змаганьне за спадчыну дыктатара, якое, калі й ня прывядзе да ўпадку савецкай сыстэмы, дык прынамсі так моцна яе аслабіць, што Саветам можна будзе тады дыктаваць усякія ўмовы міру з Захадам. І Захад паважна чакаў на такую эвэнтуальнасьць, але чакаў пасыўна й бязьдзейна. Што ў Крэмлі былі паважныя церці ў пэрыядзе між сьмерцю Сталіна і арыштаваньнем Бэрыі, аб гэтым ніхто не сумляваецца. Але ці існуюць яны сяньня і ці заіснуюць у будучыні, адказаць на гэта цяжка. Мы хутчэй схіляемся да думкі польскага публіцыстага Цата-Мацкевіча, які пісаў, што пара перад арыштаваньнем Бэрыі «была гэта магчыма адзіная хвіліна, калі Амэрыка магла выйграць вайну без вайны» і што «нагода, якую мела Амэрыка, ужо не паўторыцца».

Вось гэта былі-б тыя найбольш слабыя месцы Савецкага Саюзу, якія паўстрымоўваюць яшчэ Крэмль ад ягонае генэральнае расправы з дэмакратычным Захадам і астуджваюць ягоную гарачку да паходу на падбой усяго сьвету.

Захад знаходзіцца ў стане халоднае, г. зн. палітычнае й псыхалягічнае вайны з Савецкім Саюзам і будзе ў ім знаходзіцца аж датуль, пакуль яна ня выльецца ў гарачую трэйцюю сусьветную вайну, прэлюдыяй да якой была ўжо карэйская вайна, ёсьць вайна ў Індакітаі і можа быць яшчэ некалькі такіх-жа пэрыфэрыйных войнаў. Аб нейкім трывалым адпружаньні, у якое вераць многія заходнія палітыкі на чале з Чэрчылем, у якое верыць бальшыня заходняе публічнае апініі, ня можа быць мовы, бо гэта расплянавалася-б з крэмлёўскімі імпэрыялістычнымі мэтамі. Загроза савецкае агрэсіі ў форме трэйцяй сусьветнай вайны зьяўляецца няўхільная. Каб адхіліць гэтую загрозу, Захад павінен быў-бы ня толькі бараніцца, ня толькі прадукаваць атамныя бомбы, каб сваей мілітарнай перавагай запалохаць агрэсара ў Крэмлі, але таксама і ў першую чаргу мусіў-бы намагацца аслабіць свайго працўніка ўсюды, дзе толькі магчыма. Палітыка заўсёднага капітулянцтва перад саветамі, палітыка ўступак і гарантаваньня разбойніку права собскасьці на заграбленае ці ўкрадзенае ім, як сяньня гэта робіць Захад, вядзе не да аслабленьня, але толькі да ўзмацненьня агрэсара. Таму трэба не бараніцца й адступаць, але наступаць, пры гэтым у першую чаргу наступаць на тыя варожыя пазыцыі, якія ў яго зьяўляюцца найслабейшыя й найбольш загрожаныя.

Прыглядзімся, як-жа Захад выкарыстоўвае вышэй паказаныя намі слабыя пазыцыі Савецкага Саюзу.

Калі ходзіць пра выкарыстаньне незадаваленьня нерасейскіх народаў з нацыянальнай палітыкі Савецкага Саюзу, дык Захад ня толькі не зьяўляецца наважаным аслабляць гэтай важнай ягонай пазыцыі, але сваей нэгацыяй нацыянальных патрэбаў і нацыянальных імкненьняў нерасейскіх народаў выдатна памагае бальшавіком перамагчы гэтую іхнюю слабасьць. У той час, калі бальшавікі сярод каляніяльных і адсталых народаў умела выкарыстоўваюць супраць Захаду іхныя нацыянальныя імкненьні, перайманючы на сябе ролю найшчырэйшых абаронцаў нацыянальна прыгнечаных, дык Захад ад гэтай узапраўды магутнай зброі зусім адмовіўся. Мы ня сумляваемся, што заходні сьвет робіць гэта зусім несьвядома, дазволіўшы сябе пераканаць расейскай эміграцыйнай рэакцыяй, што ў змаганьні з бальшавізмам трэба абапёрціся выключна на расейскім народзе і што народ гэты, у выпадку падтрымліваньня Захадам нацыянальна-вызвольных імкненьняў нерасейскіх народаў, будзе змагацца супраць яго за ўтрыманьне «адзінай недзялімай», хоць і бальшавіцкай Расеі. Зьяўляецца проста недаравальным для адказных палітычных дзейнікаў Захаду, што яны яшчэ дагэтуль вераць у гэтую наіўна зложаную байчку расейскіх рэакцыянэраў і што не здаюць сабе справы з таго, што ў змаганьні з бальшавізмам найбольш пэўную апору й помач могуць знайсьці толькі сярод нерасейскіх народаў.

Мы ня цьвердзім, што такая прапаганда расейскіх эмігрантаў зьяўляецца непасрэдна інсьпіраванай крэмлёўскай агентурай. Але ня можа быць ніякае дыскусіі аб тым, што яна гэтай агентуры ня прыносіць вялізарнай услугі.

Калі-ж ходзіць пра бязвыхадны эканамічны крызыс Савецкага Саюзу, дык тыя заходнія дзяржавы, што падтрымліваюць зь ім гандлёвыя дачыненьні, таксама выдатна яму памагаюць вылячыцца і з гэтае хваробы.

Заходняя антыбальшавіцкая прапаганда, якая магла-б паглыбіць расчараваньне ў падсавецкіх людзей з камуністычнай сыстэмы і абнадзеіць іх у хуткае вызваленьне, на жаль, не знаходзіцца на вышыні сваіх заданьняў. Так як прапаганда гэтая зьяўляецца адбіцьцём абавязваючага палітычнага курсу ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, яна ня можа ўзбудзіць ніякага энтузіязму за зялезнай заслонай. Гаварыць падсавецкім людзям, што Захад хоча жыць у вечнай згодзе з Савецкім Саюзам, што ён ня думае несьці ім вызваленьня, а толькі намагаецца загарантаваць бясьпечнасьць савецкай імпэрыі абазначае ня больш і ня менш, як тое, што Захад гатоў памагчы Саветам, калі яны гэтага толькі захочуць, замацаваць нявольніцтва на адной шостай усяе зямное кулі. Бадай што адным пазытыўным вынікам гэтае прапаганды ёсьць гарантаваньне падсавецкім людзям, што, калі хто зь іх зможа ўцячы на Захад, дык атрымае права азылю. І трэба згадзіцца, што з гэтай магчымасьці многія людзі з за зялезнай заслоны і стараюцца скарыстаць. Але-ж гэтага становіча за мала, каб весьці антыбальшавіцкае псыхалягічнае змаганьне.

Калі пасьля сьмерці Сталіна ягоныя спадкаемцы апынуліся ў цяжкой сытуацыі і калі былі ўсе сымптомы, што на Крэмлі пачалося змаганьне за ўладу, дэмакратычны Захад ня толькі ня выкарыстаў гэтае спрыяльнае нагоды, выкліканай часовай слабасьцяй вярхоўнага савецкага апарату, але выдатна дапамог крэмлёўскай бандзе выпутацца зь небясьпечнай для яе сытуацыі. На Захадзе тады пераважаў несамавіты й незразумелы для нас пагляд, што ня трэба нічога рабіць, але спакойна перачакаць мамэнт і даць магчымасьць самым разьвівацца падзеям, быццам-бы яны мелі пайсьці па жаданай для Захаду лініі. А які быў вынік такой пазыцыі Захаду, дастаткова гавораць вышэй прыведзеныя словы польскага публіцыстага.

Гэткая палітыка й тактыка заходніх дзяржаваў у дачыненьні да Савецкага Саюзу, які толькі чакае на спрыяльны для яго мамэнт, каб усей сваей сілай вырушыць на падбой усяго сьвету. Калі ўглыбіцца ў такое палажэньне й дакладна здаць сабе справу, якую самагубную палітыку вядзе дэмакратычны Захад, дык нельга вызбыцца перакананьня, што сытуацыя зьяўляецца ўзапраўды трагічная.

**Язэп Каранеўскі**

УМОВЫ ПАДПІСКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» Ў 1954 ГОДЗЕ

**Цана «Бацькаўшчыны» ў наступным 1954 годзе астаецца тая самая, што й дагэтуль. Для паасобных краінаў яна пададзеная на 1-ай балоне з правага боку загалоўку газэты.**

**Пры гэтым падаецца да ведама наступнае:**

**1. Падпішчыкі, што аплацяць падпіску на цэлы год згары, могуць на жаданьне атрымліваць газэту непасрэдна з Адміністрацыі, а не за пасярэдніцтвам Прадстаўніцтваў і Кальпартэраў.**

**2. У заакіянскія краіны газэта можа высылацца лётніцкай поштай толькі ў тым выпадку, калі лётніцкая падпіска за іе будзе аплачаная згары.**

**3. Падпішчык, які прыдбае пяць новых гадавых падпішчыкаў, будзе атрымліваць газэту цэлы год задарма.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ АДЗІНУЮ ТЫДНЁВУЮ БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ НА ЭМІГРАЦЫІ — «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!

## *Зьезд мэдыкаў чужынцаў у Бэльгіі*

13 сьнежаня 1953 г. адбыўся ў Лювэне ў Беларускім Студэнцкім Доме Другі Агульны Гадавы Зьезд Згуртаваньня Мэдыкаў Чужынцаў у Бэльгіі.

Арганізацыя гэтая была заснаваная год таму назад 1 лістапада 1952 г. з мэтай абароны правоў чужынецкіх мэдыкаў, якія знаходзяцца ў Бэльгіі або ў ейных заморскіх тэрыторыях.

Зьезд адчыніў уступаючы старшыня др. Б. Рагуля, із справаздачы якога вынікала, што ўрад правёў вялікую працу і давёў да злажэньня праекту ў Бэльгійскім Парляманце аб легалізацыі дыплёмаў для чужынецкіх лекараў. Пры гэтым трэба адцеміць, што ўрад заўдзячвае гэтыя дасягненьні ў вялікай меры др. Набагезу, які заступіў у ліпені 1953 г. віцэ-старшыню др. Богуша і, дзякуючы сваім шырокім асабістым кантактам сярод уплывовых колаў Бэльгіі, здабыў прыхільнасьць усіх трох бэльгійскіх палітычных партыяў да ўспомненага праекту. Пасьля справаздачы Рэвізійнае Камісіі было дадзенае ўступаючаму ўраду абсалюторыюм з падзякай. У новую ўправу аднагалосна былі выбраныя наступныя асобы: старшыня — др. Б. Рагуля (Беларус), заступнік старшыні — др. В. Набагез (Беларус), сакратар — др. Дэпурбэ (Паляк) і другі сакратар — др. Штайн (Румын). Старшынёй Рэвізійнай Камісіі выбраны др. Паповіч (Украінец).

Выкажам пажаданьні, каб новая ўправа давяла распачатую справу легалізацыі лекарскіх дыплёмаў да канца. Прыемна сьцьвердзіць, што, паміма рэлятыўна невялікай колькасьці Беларусаў у ўспомненай арганізацыі, яны занялі ў ёй два вядучыя становішчы.

**А. Б.**

# Насіў воўк, панесьлі й воўка

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

ня ўлады. Яны сабатавалі пастановы партыі і ўраду, накіраваныя на падняцьце сельскагаспадарскае прадукцыі, маючы на мэце выклікаць вялікія цяжкасьці ў галіне харчаваньня. Яны на дамаганьне капіталістычных элемэнтаў сеілі ненавісьць і разлад між народамі розных савецкіх рэспублікаў. Ня маючы дастатковага падтрыманьня для сваіх праступных плянаў унутры Савецкага Саюзу, Бэрыя шукаў помачы ў замежных рэакцыйных імпэрыялістых. Ужо ў 1919 г. знаходзіўся ён на службе контрэвалюцыйнага ўраду Азэрбайджану, а ў 1920 г. навязаў кантакт зь мясцовай меншавіцкай тайнай паліцыяй у Грузіі, якая ўзноў-жа знаходзілася на службе брытанскай тайнай паліцыі. Пазьней, на працягу ўсяе свае дзейнасьці на становішчы шэфа НКВД, меў ён сувязі з грузінскімі эмігрантамі за мяжой і бараніў ад заслужанага пакараньня многіх агентаў гэтае сувязі.

У далейшым акт абвінавачаньня закідаў Бэрыі й таварышам, што яны працавалі дзеля аслабленьня абароннай моцы Савецкага Саюзу. Каб сябе забясьпечыць, Бэрыя перасьледаваў і зьнішчаў тых камуністых, якія падазравалі яго ў гэтых злачынствах, у тым ліку й грузінскага партыйнага правадыра Орджонікідзэ. Найбольш небясьпечных ён загадваў фізычна зьнішчыць, як ведамага працаўніка ў камісарыяце паліцыі яшчэ за часоў рэвалюцыі М. Кедрава

Ніхто з нармальных людзей, якія хоць трохі арыентуюцца ў савецкіх дачыненьнях, ува ўсе гэтыя несамавітыя абвінавачаньні не паверыць. Асабліва парадаксальным выглядае закід, што быццам Бэрыя ўжо ад 35 год знаходзіўся на тайнай службе замежнага капіталізму або што меў кантакты з грузінскай антыбальшавіцкай эміграцыяй.

Для знатакоў Савецкага Саюзу сталася добра ведамым, што там судзяць і зьнішчаюць наймацнейшых савецкіх верхаводаў галоўна зь дзьвюх прычынаў, аб якіх ня можа ўспамінаць афіцыяльнае абвінавачаньне: або гэтыя правадыры зьяўляюцца небясьпечнымі для самога дыктатара ці, як у вапошнім выпадку, дыктатарскае клікі, як канкурэнты для захопу ўлады, або трэба знайсьці ахвярнага казла і зваліць на яго ўсю віну за правал партыйнае палітыкі на дадзеным этапе, або, напасьледак, іх зьнішчаюць за адно й другое разам. Бэрыя быў зьліквідаваны праўдападобна дзеля гэтых абедзьвюх прычынаў.

У гэтым аспэкце клясычных і традыцыйных савецкіх абвінавачаньняў адзін мамэнт павінен нас зацікавіць глыбей. Гэта мамэнт нацыянальны. Ён быў моцна заакцэнтаваны як у акце абвінавачаньня, гэтак і ў пэрсанальным выбары ахвярных казлоў, што падзялілі лёс Бэрыі.

Між іншымі злачынствамі, акт абвінавачаньня закідаў Бэрыі й таварышам, што яны сеілі між народамі паасобных савецкіх рэспублік ненавісьць і разлад. Трэба разумець, што гэтыя ненавісьць і разлад сеілі яны ня між народамі паасобных саюзных рэспублік наагул, але між нерасейскімі народамі і прэдыстанаванымі на ролю іхнага «старэйшага брата» Расейцамі. Узаемная ненавісьць між самымі нерасейскімі народамі ніколі яшчэ ня мела месца ў Савецкім Саюзе, бо для гэтага ня было ніколі ніякіх асноваў.

Побач з Бэрыяй былі засуджаныя й адпраўленыя на той сьвет: ранейшы заступнік Бэрыі на становішчы шэфа МВБ-МГБ, а потым міністар дзяржаўнай кантролі СССР В. Меркулаў, які толькі 17 верасьня быў пазбаўлены свайго становішча і пазьней ягоны лёс аж да апошняга часу быў няведамы; ранейшы кіраўнік адміністрацыі НКВД, а пазьней грузінскі міністар нутраных справаў і перадваенны савецкі пасол у Бэрліне В. Дэканосаў; ранейшы заступнік грузінскага міністра нутраных справаў, а пазьнейшы заступнік дзяржаўнага міністэрства бясьпечнасьці Б. Кабулаў; ранейшы грузінскі міністар нутраных справаў і пазьнейшы шэф аддзелу НКВД Глеглідзэ; ранейшы шэф аддзелу НКВД Мерыш і ранейшы шэф спэцыяльнага сьледства НКВД Уладзімерскі. Бэрыя, як і Сталін, паводля нацыянальнасьці былі Грузінамі і, як сьцьвярджаюць многія тыя, што раней мелі доступ да крэмлёўскіх сакрэтных справаў, у працэсе савецкага паходу супраць нерасейскіх народаў СССР да Грузіі ставіліся больш талеранцыйна й больш лагодна. Тое, што вялікая колькасьць засуджаных разам з Бэрыяй высокіх правадыроў НКВД займала ключовыя становішчы якраз у Грузіі, прамаўляе за тым, што яны былі зьнішчаныя за недастатковую пільнасьць у змаганьні з грузінскім «буржуазным нацыяналізмам».

Калі ў сувязі з арыштаваньнем Бэрыі было яму, між іншымі злачынствамі, пастаўлена ў вабвінавачаньне сеяньне нацыянальнай ненавісьці ў нерасейскіх саюзных рэспубліках да расейскага народу, мы тады выказалі два прыпушчэньні: 1. нацыянальны фэрмэнт і незадаваленьне сярод нерасейскіх народаў СССР зьяўляюцца на столькі сільнымі й небясьпечнымі для Масквы, што трэба было на некага зваліць за гэта віну, каб пасьля распачаць больш станоўчае й яшчэ больш безаглядная змаганьне зь імі; 2. або Бэрыя, імкнучыся да захапленьня ўлады, плянаваў абапёрціся на нерасейскіх народах, якія зьяўляюцца найбольш варожа настроенымі да нацыянальнай русыфікацыйнай палітыкі Крэмля. Не ўваходзячы ў здагадкі, якое з гэтых прыпушчэньняў зьяўляецца больш праўдападобным, мы тады зрабілі вывад, што кажнае зь іх у роўнай меры сьвечыць, што нерасейскія народы СССР прыносяць крэмлёўскаму палітычнаму курсу вялізарныя клопаты. Цяпер-жа судовы працэс супраць Бэрыі, як і пэрсанальны склад засуджаных гэтую нашую думку поўнасьцю пацьвердзілі.

**Алесь Крыга**

НАЙЛЕПШЫМ І НАЙКАРЫСЬНЕЙШЫМ ПАДАРКАМ НА КАЛЯДНЮЮ ЁЛКУ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**ЛУКАШ КАЛЮГА** 14)

# Нядоля Заблоцкіх

**ЧАСТКА ПЕРШАЯ**

**ПРЫГОДЫ Й ЛЯТУЦЕНЬНІ**

**(Заканчэньне)**

**XII**

Мінуліся тыя месячныя вечары.

— Яшчэ можа што здумаем. Яго ўсё 'шчэ наперадзе, — усім, хто што пра Савосту ня пытаўся, казаў Юстап.

І здумаў. Язукову думку нанава перадумаў ён. Па Клемкавай дарожцы пусьціў Заблоцкі свайго сына: ня мінуў ён хлюпскае пошты. Там і стрэліся неўспадзеўкі Клемка з Савостам.

— А ты што? На сваім хлебе? — папытаў Філончык.

— На сваім...

— Кажаш, гарадзкое к чортавай матары?!

Нічога не адказаў, змоўчыў Савоста. А далей болей, што раз лепей ды нарэшце і саўсім добра схаўрусалі яны. Кінулі Хлюпск дый зьехалі ўдвух недзе ў сьвет.

Пабыў Савоста на далёкай чужой старане і абрыдзела там яму ўсё чыста. Па сваім баку, па наскіх людзях ён зажурыўся. Свайго роднага пачаў там шукаць.

І ў тым далёкім павятовым горадзе, дзе ён цяпер апыніўся, разам з сонцам, як некалі ў Баркаўцох, прачнецца Савоста. Выйдзе босы з свае кватэры на мурожны двор. Ціха, яркавата і адзінока тады. Тая самая буйная, краплястая баркаўская раса стаіць на траве. Ды зараз дзевятая гадзіна, зараз канцылярскі, зьліты атрамантам стол.

— От дзе, маці, праўдзівы «курч», — сказаў-бы ён цяпер Прузыне Заблоцкай.

Яшчэ адзін надвячорак успамінаў Савоста.

Перад Калядамі ў вадлігу бывае, часам, ціха і ярка на дварэ, як у вымытай перад вялікім сьвятам хаце — прасторная і пустая здаецца яна: раз ступіш, а тры разы твой стук адгукнецца. У такія надвячоркі ў Баркаўцох скрыпяць вілы ў старой Базылёвай студні, дзе на два грунты ваду бяруць. Алесь Стрэмскі — нізенькі вясёлы чалавек — нясе вязку трушанкі з току цераз вуліцу. А Савоста памаленьку валачэцца дадому зь сяла.

Зажурыліся тыя надвячоркі, адны ў Баркаўцох застаўшыся, ды й яны прыехалі да Савосты ў гэты далёкі павятовы гарадок. Неяк неўспадзеўкі, ідучы з службы, на вузкай ціхай вуліцы стрэўся зь імі Заблоччык. І хоць ня чуваць было скрыпу вілаў, ня відаць Алеся зь вязкаю, але было нешта сваё роднае ў гэтай надвячорнай шэрай гадзіне.

Зьбілі з тропу Савосту росныя раніцы, змрочныя вечары. Туга апанавала яго. Усяму свайму мінуламу ліхі вораг зрабіўся ён. Захацелася Заблоччыку ўсё нанава пачаць. Новым у Баркаўцы зьявіцца чалавекам. Прыгадалася мяккая, падаўкая зямля пад босымі нагамі ў варатага. Нажадаў Савоста расстарацца сабе на цэлы век такое долі.

Заманулася яму, каб як прывініцца: ня ціхенька, а з грукам, тэртусам зьявіцца ў Баркаўцы. Так зрабіць, каб да «курчу» ўжо век ня было ўзвароту. З самага малку любіў Савоста дзьвярыма бразнуць — злосьць сваю паказаць. І тугія сабе дзьверы, каб далёка чуваць было, дабіраў. Ды яшчэ наперад паглядзіць, каб ганак нізкі быў, возьме крысьсе ў рукі, каб ня прышчаміць як незнарок ды не разганяецца лішняе, каб носам не зарыць. Ён перш стукне, дасьць адвод, што пашоў, ды стане пад дзьвярыма, што пра яго гаварыць будуць, паслухае.

І ў людзей памяці, як у паслушнай кнізе, хацелася Савосту свае парадкі навесьці: пазногцем тыя мясьціны зазначыць, што такія як яму трэба, а на ўсю рэшту не пашкадаваў-бы Заблоччык часу сеў-бы на дзён колькі ды так-бы густога атраманту даў, каб ніводнага ўспаміну, ніводнай літары там нельга было разабраць, каб і знаку ад таго, што яму ў павараў, не асталося. Выкасаваў-бы Савоста бацькавага парабка, Шамрукову котву, паштовую службу, а пакінуў-бы — «летнюю ночку маленьку» ды «вясну-красну».

Яно добра-б было, каб так было, як Савосту трэба. Але спрадвеку вядома, як у гарадзкім Заблоччык быў, над людзкою памяцьцю меў ён волю. Такіх-бы ў таей кнізе парадкаў нарабіў, што пазьней сам-бы за вушы хапіўся. Саўсім-бы бязь ніякага мінулага давялося яму аставацца.

І знайшлося было раз Савосту здарэньне дзьвярыма бразнуць. У п'яной бясэдзе яму гэта шчасьце ў рукі прышло. Нарваўся быў таго разу каталіцкі раскрыжованы Язус на іхняе вясёлае пісарскае таварыства. Ціхенька на куце, да сьцяны прытуліўшыся, стаяў ён на сваіх прымастках. Дастаў яго адтуль Клемка Філончык. Абгледзіў сваімі гарачымі, гарэлкаю залітымі вачыма, ды:

— Годзе табе, — кажа — пане Язусе, пакутаваць! — і давай яго сілаю з крыжа вызваляць. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З рогату заходзіліся тыя, што разам пілі, елі, за адным зь імі сядзелі сталом. Не маглі яны дачакацца тае часіны, калі льга будзе ўвесь гэты вечар жандарам за крамольны матар'ял аддаць. Адзін толькі Савоста ціхі і сур'езны на таей бясэдзе быў. Сядзеў ён, маўчаў, а потым наліў кілішак гарэлкі ды й кажа:

— Вып'ем, панове, за здароўе пана Язуса і найсьвеншай маткі

От за гэтае самае слова і трапіў ён з Клемкам у вадзін гурт. Удвух яны на сваім хлебе ў Хлюпскай пошце былі — і цяпер удвух на казённы хлеб, на казённую ваду трапілі. Ніякімі дзьвярыма мацней ня грукнуў-бы, як цяпер, Савоста ляпнуў сваім п'яным, як ануча, няспрытным языком. Але казалі:

# „Мы песьняй уславім Цябе, Беларусь!“

Беларускі народ вызначаецца вялікімі музыкальнымі й песеннымі здольнасьцямі, а ягоная, нязвычайна арыгінальная ў сваей мэлёдыйнасьці, народная песьня мае мала сабе роўных сярод песеннага мастацтва іншых народаў. Дык і ня дзіва, што ў нашым нацыянальным адраджэньні, у вадраджэньні беларускае культуры песьня займала выдатнае месца й адыграла вялікую ролю.

Сяньня ў паняволенай Бацькаўшчыне беларуская песьня, як і ўсё, што гаворыць аб нацыянальнай самабытнасьці нашага народу, зьяўляецца прыгнечанай і засуджанай. На ейнае месца ўводзяцца розныя «Кацюшы» ды іншыя маскоўскія «дрындушкі». «Зь ярмом даў і песьню чужынец», — сказаў наш нацыянальны паэта Янка Купала.

І толькі на чужыне, усюды там, куды лёс закінуў нашых суродзічаў, зьвініць прыгожай мэлёдыяй нашая родная песьня так, як калісьці на Бацькаўшчыне. Яна сталася тут магутнай зброяй у захаваньні нашае нацыянальнае душы ды служыць найлепшым сяродкам для прапаганды беларускага імя сярод чужынцаў. Заходнія народы нашую песьню палюбілі й падзіўляюць высокую мастацкасьць ейнае мэлёдыі й выкананьня. А тыя нашыя суродзічы, што гэтую песьню прапагуюць і гэтым самым больш непасрэдна прамаўляюць да пачуцьцяў пераважна абыякавых да нас шчасьлівых народаў вольнага сьвету, выконваюць вялікую пачэсную службу для Бацькаўшчыны.



МІКОЛА КУЛІКОВІЧ

Выдатны беларускі кампазытар, прафэсар музыкі і дасьледавальнік беларускага фальклёру. Як кампазытар, опэрны й сымфанічны дырыгент і дасьледавальнік, ён шмат зрабіў для беларускае музыкі раней на Бацькаўшчыне і цяпер на эміграцыі. Ён зьяўляўся шматгадовым кіраўніком музычнага мастацтва на Беларусі і кіраўніком Беларускага Тэатру Эстрады ў Нямеччыне. Зьяўляецца ён аўтарам опэрных, сымфанічных, камэрных, харавых і масавых музычных твораў.

Галоўныя зь іх: «Беларуская аркестравая суіта», «Сымфонія № 2 на беларускія тэмы», «Беларуская вакальная суіта», опэра «Кацярына», опэра «Лясное Возера», опэра «Усяслаў Чарадзей».

Шмат арыгінальных кампазыцыяў Куліковіча ўвайшлі ў народ і сталіся, дзякуючы сваёй папулярнасьці, запраўды народнымі сьпевамі. Да іх належаць: «Васілёчкі», «У гушчарах», Арляняты», «Пагоня», «Слуцкія ткачыхі», «Бацькаўскае слоўца», «Нёман», «Я ад вас далёка», «О, Беларусь, мая шыпшына» і шмат іншых.



МІКОЛА РАВЕНСКІ

Выдатны беларускі кампазытар і дырыгент, галоўнай рысай творчасьці якога, апрача высокае мастацкае ўзроўні, зьяўляецца найбольш непасрэднае і несхвальшаванае мадэрністычнай манерай пераданьне народнага характару нашае песьні. Ён зьяўляецца аўтарам опэры «Браніслава», многіх рамансаў, мэлёдыяў на словы беларускіх паэтаў, але найвялікшыя палажыў заслугі, як кампазытар народных песьняў.

Равенскі памёр 9 сакавіка 1953, але ягоная музычная творчасьць будзе заўсёды годна рэпрэзэнтаваць беларускае песеннае мастацтва.



АЛЕСЬ КАРПОВІЧ

Беларускі ўталентаваны кампазытар, будучы адначасна здольным піяністым, галоўна кампануе музычныя творы для фортэп'яну.

Пасьля сьмерці камп. Равенскага, Карповіч пераняў мастацкае кіраўніцтва й дырыгенцтва Лювэнсікм студэнцкім ансамблем.



НАДЗЕЯ ГРАДЭ

Опэрная артыстка і ўталентаваная выканальніца беларускага опэрнага, рамансавага і песеннага рэпэртуару ў Амэрыцы. Ейны моцны й прыемны голас (сопран) ды лірычнасьць выкананьня робяць кажнае ейнае выступленьне вялікай удачай, будзячы шчырыя сымпатыі ў слухачоў.



ПЁТРА КОНЮХ

Выдатны малады беларускі артысты-сьпявак, лірычны бас Пётра Конюх, сваімі выступленьнямі ў Рыме здабыў сабе вялікую папулярнасьць і прызнаньне. У 1951 годзе здабыў ён на Рымскай Акадэміі дыплём з мастацкім тытулам «Cavaliere Accademico» із закваліфікаваньнем спэцыяльнасьці, як «Artisto Lirico».

На фотоздымку: Пётра Конюх выконвае ведамую патрыятычную песьню на словы Янкі Купалы «Жыў на сьвеце Лявон» на ўрачыстай акадэміі ў Рыме 25 сакавіка 1953 г. з нагоды 35-ай гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Пры фартап'яне прафэсар Рымскай консэрваторыі і настаўнік П. Конюха, Корсі.



ПАВАЛ ЧОПЧЫЦ

Галоўны арганізатар і мастацкі кіраўнік Беларускага Ансамблю Народнай Песьні й Танцу ў Монтрэалі (Канада). Ён-жа здольны салісты-тэнар, выканальнік народных і мадэрных песьняў. Выступае часта ў канадыйскім радыё, а некаторыя ягоныя песьні найграныя на грамафонныя плíткі.



МІХАЛ РАДЧАНКА

Малады 19-цігадовы сьпявак самародак сваім нязвычайна ўталентаваным голасам здабыў вялікую славу сярод канадыйскага грамадзянства. Ягонае першае публічнае выступленьне ў травені 1951 г. на міжнародным музычным фэстывалі, арганізаваным ІМКА-ай у Вініпэгу, было для маладога артыстага першым вялікім сукцэсам. З 24-ох нацыянальнасьцяў, што прыймалі ўдзел у фэстывалі, дзякуючы М. Радчанку Беларусы занялі ня толькі першае месца, але й заваявалі сталую сымпатыю Канадыйцаў.

Аб нязвычайным посьпеху першага публічнага выступленьня М. Радчанкі сьветчылі ўжо загалоўкі газэтных справаздачаў з Фэстывалю: «Малады беларускі тэнар зноў усхвалёўвае аўдыторыю», «Беларускі хлапец чараваў Фэстываль голасам нязвычайнай мастацкасьці», «Беларускі хлапец мае задзіўляючы голас» і г. п.

Музыкальны кіраўнік канадыйскага радыя Том Тэйлер гэтак ацаніў нашага сьпявака («Вініпэг Трыбюн», 23. 5. 1951): «...выступіў з групы малады хлапец і пачаў пяяць. Я быў зусім ашаломлены ягоным багата абдораным голасам і мастацкасьцю, што я мог ледзьве паверыць маім вушам». В. Г. Андэрсон, шырака ведамы вініпэскі кампазытар і зьбіральнік народных песьняў, асьветчыў: «Я чуў у маім жыцьці толькі тры або чатыры галасы падобныя гэтаму».

М. Радчанка выступае на ўсіх беларускіх канцэртах у Вініпэгу і ў канадыйсім радыё, прыносячы вялікую славу беларускаму песеннаму мастацтву.

На фотоздымку: М. Радчанка выконвае беларускія песьні пад акампаньямант тырольскай цытры на Міжнародным Музычным Фэстывалі ў Вініпэгу 21. 4. 1952 г. Акампаньюе Аўстрыячка Гусьці Таўэр.





БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ АНСАМБЛЬ У ЛЮВЭНЕ

Заснаваны яшчэ ў Марбургу ў Нямеччыне, а пасьля 1948 г., у сувязі зь пераездам беларускай студэнцкай групы з Марбургу ў Бэльгію, адноўлены ў Лювэне, Студэнцкі Ансамбль Беларускай Народнай Песьні й Танцу зьяўляецца адзінай беларускай вакальнай трупай у Заходняй Эўропе, якая палажыла вялікія заслугі ў галіне папулярызацыі беларускага песеннага мастацтва на эўрапэйскім Захадзе. Найбуйнейшы росквіт Ансамблю распачаўся ў 1950 г., калі ў Лювэн пераехаў камп. М. Равенскі і абняў над ім мастацкае кіраўніцтва. Ансамбль даў некалькі дзесяткаў удалых канцэртаў у розных гарадох Бэльгіі й Францыі, здабываючы для сябе славу, а для беларускай песьні шчырыя сымпатыі й глыбокае зацікаўленьне сярод чужынцаў. Беларуская народная й рэлігійная песьня, найграная Ансамблем на грамафонныя пліткі, гучыць сяньня падчас нацыянальных урачыстасьцяў і сяброўскіх вечароў усюды там, куды лёс закінуў нашых суродзічаў.

На фотоздымках уверсе: 1. Ансамбль пад дырыгенцтвам камп. Равенскага падчас выступленьня; 2. ансамблевая група на чале з камп. М. Равенскім.

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

Спасярод асяродзьдзяў новае беларускае эміграцыі ў ЗША на асаблівую ўвагу заслугоўвае Кліўленд. Тут сканцэнтравалася ладная група беларускае моладзі, а сярод яе — ня мала адданых патрыётаў і гарачых энтузіястых. Праца моладзі праводзіцца ў розных галінах, але найбольш выдатна ў галіне беларускага песеннага мастацтва.

Яшчэ некалькі год таму назад гэтая моладзь, хаця ня мела адпаведнага мастацкага кіраўніка, зарганізавала добры мужчынскі і мяшаны хоры. 24 жніўня 1952 г. мяшаны хор моладзі з Кліўленду прыняў удзел у міжнародным фэстывалі песьняў і танцаў у Дэтройце п. н. «Cavalcada Americana». Сярод многіх нацыянальнасьцяў, што прыймалі ўдзел у фэстывалі, Беларусы занялі першае месца, а адна зь мясцовых газэтаў напісала: «Бельмі добра выпаў дасканалы хор Беларусаў, узбуджаючы праўдзівае зьдзіўленьне падборам праграмы, як і гарманізацыяй».

На просьбу кліўлендзкае моладзі, туды пераехаў над восень мінулага году кампазытар М. Куліковіч і абняў мастацкае кіраўніцтва над мясцовымі хорамі. Ён хутка аднавіў і ўдасканаліў мужчынскі, дзяўоцкі і мяшаны хоры, якія, першы раз пад новым кіраўніцтвам, выступілі на канцэрце 31. 10. 1953 году і здабылі поўнае прызнаньне. Тутжа працуе й музычная школа, кіраваная камп. М. Куліковічам.

Праца кліўлендзкае моладзі над мастацкім харавым выкананьнем беларускае песьні, дзякуючы кіраўніцтву камп. Куліковіча, знаходзіцца на добрай дарозе, а ў недалёкай будучыне можна ад яе спадзявацца яшчэ большых вынікаў.



Мужчынскі Хор у Кліўлендзе



Мяшаны Хор у Кліўлендзе



Кліўлендзкі Мяшаны Хор падчас выступленьня на Міжнацыянальным Фэстывалі ў Дэтройце 24 жніўня 1952 году.



Дзявоцкі Ансамбль выступае на канцэрце, ладжаным Беларускім Жаноцкім Згуртаваньнем і Беларускім Студэнцкім Таварыствам у Нью Ёрку.





## АНСАМБЛЬ НАРОДНАЕ ПЕСЬНІ Й ТАНЦАЎ У МОНТРЭАЛІ

Ансамбль зарганізаваўся два гады таму назад пад умелым кіраўніцтвам Паўла Чопчыца. За гэты час было наладжана некалькі самастойных канцэртаў у Монтрэалі й Торонто, апрача гэтага Ансамбль дае багатую праграму падчас розных нацыянальных сьвяткаваньняў.

Заслугоўвае на ўвагу й тое, што артыстычная група ў Монтрэалі, апрача песеннага й танцавальнага рэпэртуару, з добрым посьпехам прабуе сваіх сілаў і ў галіне драматычнай. Да гэтага часу былі пастаўленыя на сцэне: «Заручыны Паўлінкі» і «На вёсцы» Ф. Аляхновіча, «Мікітаў Лапаць» М. Чарота, «Модны Шляхцюк» К. Каганца ды літаратурна-сцэнічныя мантажы: «Курган» Янкі Купалы і «Вечар на вёсцы».

На фотздымках з права на лева ўверсе: 1. група ўдзельнікаў Ансамблю з сваім мастацкім кіраўніком П. Чопчыцам пасярэдзіне; 2. дзявоцкая група Ансамблю выконвае сцэнічны мантаж-песьню «Васілёчкі» ў музычным апрацаваньні камп. М. Куліковіча падчас гасьціннага канцэрту ў Торонто 12. 10. 1952 г. Фотздымак направа: «Што-ж маўчыш ты, гусьляр?» — сцэна з мантажу паэмы Я. Купалы «Гусьляр» у Монтрэалі.







## БЕЛАРУСЫ ВІНІПЭГУ ГОДНА РЭПРЭЗЭНТУЮЦЬ НАШУЮ ПЕСЬНЮ

Беларуская група ў Вініпэгу (Канада), падобна як і ў Монтрэалі, сваю нацыянальную дзейнасьць сканцэнтроўвае на азнаямленьні канадыйскага грамадзянства зь Беларусяй і Беларусамі праз песеннае мастацтва. У гэтай галіне група дабілася вялікіх посьпехаў, што неабходна падчыркнуць, як бясспрэчную заслугу нашых суродзічаў гэтага канадыйскага гораду.

У сакавіку 1951 году тут зарганізаваўся Гурток Мастацкай Самадзейнасьці беларускай народнай песьні й танцу пад мастацкім кіраўніцтвам здольнага акардыяністага А. Радчанкі і арганізацыйным кіраўніцтвам М. Сільвановіча. Група здабыла папулярнасьць і прызнаньне сярод Канадыйцаў галоўна дзякуючы еднаму салістаму, гэніяльнаму маладому сьпеваку Міхалу Радчанку.

За два гады свайго існаваньня Ансамбль, апрача канцэртаў для Беларусаў, выступаў 9 разоў на міжнародных фэстывалях і іншых імпрэзах, а яганаму сябру М. Радчанку прыходзілася часта сьпяваць цераз канадыйскае радыё CBC.

На фотздымках у ніжнім радзе:
1. Група Мастацкай Самадзейнасьці Беларускай Народнай Песьні й Танцу ў Вініпэгу выконвае беларускі народны танец «Лявоніху» на гарадзкім пляцы перад канадыйскімі глядачамі; 2. арганізатары й сябры Гуртка Мастацкай Самадзейнасьці Беларускай Народнай Песьні й Танцу пасьля першага выступленьня 25 сакавіка 1951 г.




Мэдаль «ЮНЭСКО», прызнаны лювэнскаму студэнцкаму ансамблю за мастацкае выкананьне беларускае праграмы на Міжнародным Канцэрце ў Бруксэлі 7. 7. 1953 г.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Наш фотомантаж зьяўляецца далёка няпоўным, бо некаторыя нашыя суродзічы, як прыкладам у Нью Ёрку, ня прыслалі нам патрэбных дадзеных і матарыялаў, ня гледзячы на тое, што мы праз газэту, а некаторых і ў спэцыяльных лістох своечасна гэтага прасілі.

# Савецкі настаунік і школа

Бальшавіцкая прапаганда цьвердзіць, што клопатамі камуністычнай партыі савецкі настаўнік пастаўлены на такую вышыню, на якой ён не стаяў, не стаіць і ня можа стаяць у капіталістычных краінах. На справе савецкі настаўнік бяспраўны ў сваей дзейнасьці і матэрыяльна далёка не забясьпечаны. Яго пачэсная праца не акружана клопатамі і павагай. Умовы працы настаўніка надзвычайна цяжкія, а праўнае становішча сумнае, асабліва ў вёсцы.

Ня лёгка жылося вясковаму настаўніку і пры царскім самаўладзстве. Яго дзейнасьць залежыла ад шмат каго. І тым ня менш яго ахвярнай працы спачувалі перадавыя колы тагачаснай грамадзкасьці, лібэральныя пісьменьнікі, земскія дзеячы. Ён насіў надзвычайна пачэсную назву «народнага настаўніка», бо ён працаваў для народу, быў самым блізкім і запраўдным яго настаўнікам і дарадчыкам. Савецкая ўлада зь першых дзён свайго існаваньня ў першую чаргу адабрала ад настаўніка яго пачэсную назву і пашану, прыляпіўшы яму дзікі нясугучны прымітыў — словатвор «шкраб». Народ ня прыняў гэтай назвы, яна ня прышчапілася. Народны настаўнік застаўся проста настаўнікам.

За часы савецкай улады настаўніцкія кадры Беларусі ня раз правяраліся і праходзілі розныя чысткі з пункту гледжаньня палітычнай адданасьці рэжыму. Тысячы зь іх звальняліся з працы, шмат хто сам пакідаў школу, шукаючы больш спакойнае працы ў розных канцылярыях. Старыя настаўніцкія кадры, якія захаваліся ад першай сусьветнай вайны, асабліва тыя, што вярнуліся з вайны ахвіцэрамі вайсковага часу, былі ўзяты пад нагляд, як элемэнт ненадзейны. Шмат настаўнікаў загінула ў часы грамадзянскай вайны і розных акупацыяў. Пад пільны нагляд настаўнікі былі ўзяты пасьля судовага працэсу над настаўнікам Лістападам Ю. У трыццатых гадох адбыліся шматлікія арышты настаўнікаў у сувязі з абвінавачаньнем у нацыянальных ухілах. Тут ужо арыштоўвалі без разбору старых і маладых. За кратамі ГПУ апынуліся разам з старымі і скончыўшыя ўжо савецкія пэдагагічныя тэхнікумы і Беларускі ўнівэрсытэт. Усе настаўнікі, якія займаліся краязнаўчай працай, зьбіралі народныя песьні, казкі, прыказкі і іншыя роды народнай творчасьці, былі залічаны нацдэмамі, «ворагамі беларускага народу». і высланыя ў далёкую халодную Сібір у канцэнтрацыйныя лягеры.

Жудкая Яжоўшчына канчальна зьліквідавала ўсё каштоўнае, думаючае, перадавое сярод настаўніцтва Беларусі. Тысячы загінулі ў часы другой сусьветнай вайны. Тыя, што засталіся на бацькаўшчыне ў часы нямецкай акупацыі. па звароце савецкай улады, былі жорстка пакараныя, і выселеныя далёка за межы Беларусі.

Сучасны склад настаўнікаў малакваліфікаваны, часта без спэцыяльнай пэдагагічнай асьветы, з слабымі агульнымі ведамі і разьвіцьцём. Яны патрабуюць працяжнай, сыстэматычнай працы над сабою. У школах надзвычайна многа вольных настаўніцкіх пасадаў. Асабліва цяжка падабраць дырэктароў і загадчыкаў навучальнай часткай у сярэднюю школу. Так у Бабруйскай вобласьці «сталі звычайнымі фактамі, калі школы, дзіцячыя дамы, раённыя аддзелы народнай асьветы на працягу некалькіх месяцаў застаюцца бязь кіраўнікоў. У Клічаўскім раёне напрыклад, лічыцца часова выконваючымі абавязкі 11 дырэктароў і загадчыкаў навучальнай часткі школ» (Зьвязда» за 23 травеня 1953). Непасьпяховасьць вучняў у школах савецкая школьная інспэктура часта тлумачыць значнай наяўнасьцю настаўнікаў «вылучэнцаў». Калі ў савецкіх умовах заводамі, хвабрыкамі і навет навучальнымі ўстановамі кіруюць людзі, ня маючыя спэцыяльных ведаў, то няпісьменных бязь ведаў ня можна «вылучаць» настаўнікамі і чакаць ад іх посьпехаў у школьнай працы. «У Клічаўскай сярэдняй школе, напрыклад, не пасьпявае кажны чацьверты вучань», як падае газэта «Зьвязда» за 23 травеня сёлета.

Непасрэднае кіраўніцтва школамі ажыцьцяўляецца раённымі аддзеламі асьветы праз школьную інспэктуру. Школьны інспэктар зьяўляецца афіцыйным кантролем пастаноўкі навучаньня ў школах, на яго-ж абавязку ляжыць дапамагаць настаўнікам і ў пытаньнях навучальна-выхаваўчых. Аднак «у апараце паасобных раённых аддзелаў народнай асьветы і навет абласных часта працуюць людзі, якія ня маюць належнага пэдагагічнага дасьветчаньня і навет адпаведнай адукацыі. Зразумела, такія працаўнікі ня могуць глыбака правяраць і кантраляваць работы школ і настаўнікаў, ня ў сілах даць ім канкрэтныя парады па палепшаньню вучэбна-выхаваўчага працэсу. Больш таго, часам на кіруючую і пэдагагічную работу ў школы трапляюць людзі прыпадковыя і нясумленныя». Так характарызуе газэта «Зьвязда» за 9 ліпеня г. г. кіруючы пэдагагічны склад у школах Беларусі. Аб гэтых «выпадковых і нясумленных» людзях на пэдагагічнай працы паведамляе і маскоўская «Учительская Газета» за 15 ліпеня г. г. У Менску загадчыцай базавай школы пры пэдагагічным вучылішчы ўжо два гады працуе З. Карповіч. Яна запэўняе, што скончыла геаграфічны факультэт Крымскага пэдагагічнага інстытуту ў гор. Сімферопалі. Яна навет мела і «дыплём», праўда, выклікаючы вялікі сумлеў у яго аўтэнтычнасьці. З усяго відаць, што гэты «пэдагог» малакультурная і няпісьменная асоба. Загадчыца школы Карповіч, уступіўшы ў спрэчкі з вучнем школы, аўтарытэтна сьцьвярджае, што ён «фуліган». Вучань згадзіўся, што ён можа запраўды «хуліган». аднак Карповіч настойліва і з прыціскам цьвердзіла, «а я гавару фу-лі-ган. Фуліган ты і ёсьць! «Настаўнікаў і вучняў ізь сьвятамі яна «праздраўляе». Прыбіральніцы школы яна прапануе прынесьці «з весьцюбеля стуло». Настаўнікаў базавай школы ўпікае. што яны чытаюць вучням матар'ял «малатонна». Няма ніякага сумлеву, што яе пэдагагічныя веды ня вышэй пісьменнасьці і агульнага разьвіцьця. А між тым. З. Карповіч ня толькі загадвае базавай школай, але яшчэ вядзе групу ў школе і кіруе практыкай студэнтаў пэдагагічнага вучылішча. Калі ў сталіцы Беларусі Менску на адказных пэдагагічных становішчах працуюць такія настаўнікі, як Карповіч, то што можна патрабаваць ад настаўнікаў пачатковай школы ў глухіх вёсках?

Праўнае становішча савецкіх настаўнікаў немагчыма цяжкае. асабліва ў вёсках. На яго ўскладаецца, апрача школьнай працы, шмат іншай, якая ня мае ніякага дачыненьня да абавязкаў настаўніка і называецца грамадзкай працай. Настаўнік абавязкова павінен быць «актывістым і грамадзкім працаўніком» навет у большай ступені, чым настаўнікам. Ацэну грамадзкай працы устанаўліваюць партыйныя і савецкія ўлады на вёсцы, носьбітамі якой у большасьці зьяўляюцца асобы абмежаваныя, малакультурныя і ня без самадурства. Ён забавязаны прысутнічаць на шматлікіх сходах і паседжаньнях, якія ня маюць ніякіх адносінаў да школьнай працы, выступаць там з прамовамі ў жаданым для ўлады кірунку. Настаўнік-актывісты, сталы наведвальнік хаты-чытальні, клюбу, чырвонага кутка, сельскага савету, праўленьня калгасу і г. д. Пры чым гэтае наведваньне ня зьвязанае з практычнай патрэбай, а так проста, каб толькі паказацца. Настаўнік абавязаны быць сябрам шматлікіх савецкіх арганізацыяў і таварыстваў. Ён зьбірае падпіску на дзяржаўныя пазыкі, арганізоўвае збор мэталёвага лому і рознага ўцілю для прамысловасьці. Яго прыцягваюць на выкананьне натуральных паставак хлеба, бульбы, малака, яек і іншых падаткаў. Ён павінен быць «ваяўнічым бязбожнікам», чытаць лекцыі на антырэлігійныя тэмы, а ў вялікія сьвяты арганізоўваць розныя антырэлігійныя карнавалы, ставіць п'есы. Бяз удзелу настаўніка ня выходзіць насьценная газэта калгасу. Старшыня сельскага савету, а тым больш сакратар камуністычнай арганізацыі, старшыня калгасу, загадчык хатай-чытальняй у ўсякі час можа прыцягнуць настаўніка для выкананьня розных абавязкаў, навет прыпыніць заняткі ў школе для правядзеньня якога-небудзь сходу. Пратэст або ўхіленьне ад гэтых нярэглямэнтаваных працаў цягне за сабою шмат няпрыемнасьцяў для бяспраўнага савецкага настаўніка. Яму прышпіляць ярлык сабатажніка, антыграмадзкага элемэнту, будуць публічна ахайваць на розных сходах і паседжаньнях, у насьценнай газэце, нічолькі ня турбуючыся аб захаваньні настаўніцкага аўтарытэту сярод вучняў тэй школы, дзе ён працуе. Нарэшце даб'юцца яго пераводу ў іншае месца.

Пры такіх умовах ці можа савецкі настаўнік удзяліць час на падрыхтоўку да заняткаў у школе, удумліва скласьці плян працы, уважліва выправіць вучнёўскія пісьмовыя працы, удзяліць час на так патрэбную самаадукацыю? Таму зусім ня выпадкова, што ў Бабруйскай вобласьці з 429 настаўнікаў, якія запісаліся на завочнае навучаньне ў пэдагагічны інстытут, вучэбны плян выканала папалам з грэхам толькі 284. Запраўды, савецкі настаўнік пастаўлены ў такое бяспраўнае становішча, у якім ён не стаяў, не стаіць і ня можа быць пастаўлены пры любым дзяржаўным ладзе, апрача савецкага.

Жалю годныя няспрыяльныя ўмовы для арганізацыі нармальнага навучаньня дзяцей у савецкай школе, асабліва ў вёсцы, бяспраўная залежнасьць настаўнікаў ад мясцовых уладаў, сыстэматычная загрузка яго часу так званай «грамадзкай працай» зьяўляецца непераможнай перашкодай арганізацыі пэдагагічнага працэсу ў школе. З гэтых прычынаў слаба і павярхоўна засвойваецца навучальная праграма, павялічваюцца выпадкі датэрміновага пакіданьня вучнямі школы пры пашыранай практыцы пакіданьня непасьпяваючых вучняў на другі год у ваднэй клясе.

**В. Б.**

# Леу Сапега й сьв. Юзафат

(Заканчэньне з 6-ай бэлоны)

ці вучоны. У выпадку сьв. Юзафата ёсьць так, што ён ёсьць абвешчаны сьвятым і нябесным заступнікам ня толькі Беларусі, Украіны, Польшчы, Летувы, але кажнага году каталікі ўсяго сьвету да яго моляцца ў гадавіну ягонае сьмерці.

Пры нагодзе заўважым, што калі каталіцкая Царква выносіць кагось на аўтары, дык пры гэтым правярае кажны ўчынак і кажнае слова таго, каго мае кананізаваць. Яна правярае, ці кандыдат у сьвятыя меў у гэраічнай ступеньцы цноты справядівасьці, растаропнасьці, чыстасьці, пакоры, муства, любові блізьняга й Бога. Усё гэта было сьцьверджана ў дачыненьні да сьв. Юзафата і таму яму ад усіх належыцца чэсьць і прызнаньне.

Сп. Грынеў, выступаючы супраць мэтадаў сьв. Юзафата, жадае назаўсёды вылучыць «згубныя» ўплывы гэтага сьвятога на Беларусаў. Паміж славамі ягонага артыкулу вычуваецца тое запалоханьне: не ўспамінайце аб Юзафаце, бо робіце прыкрасьць нашым братом праваслаўным! Так, згаджаемся не гаварыць аб сьв. Юзафаце з тымі, што на ўспамін ягонага імя дастаюць белай гарачкі і ў імя дэмакрацыі й талеранцыі, будучы самі на выгнаньні, пагражаюць глыбокімі рэкамі сваім суродзічам. Але з другога боку ня лічу разумным быць сарамяжлівымі там, дзе можна спакойна й рэчова дагаварыцца, дзе можна захаваць згоду і пэўнае адзінства пры наяўнасьці рознага веравызнаньня.

Лічу таксама вялікім недаразуменьнем тое, што, калі каталікі моляцца да сьв. Юзафата, дык канечне гэтым спрычыняюць прыкрасьць сваім братом праваслаўным. Французы самі засудзілі й спалілі Жанну Д'Арк, польскі кароль забіў біскупа Станіслава, грэцкі ўрад перасьледваў сьв. Яна Хрызастома, Ангельцы адрэзалі галаву свайму канцлеру Тамашу Моору — і ўсе нашчадкі ўспомненых тут сьвятых і забойцаў кананізавалі замучаных і сяньня да іх моляцца. Ці-ж мы Беларусы дзеля нейкай, штучна падтрымліванай, сарамяжлівасьці мелі-б вырачыся сьв. Юзафата, каторы аддаў Беларусі ўсё, разам із сваім жыцьцём?

Паважаны сп. Грынеў, гаворачы аб вуніі і мэтадах яе ўводжаньня, кажа, што рэлігійнае адзінства можа наступіць, «але толькі цераз задзіночаньне, а не падпарадкаваньне». Далей гаворыць: «Трэба... дабіцца ліквідацыі часта штучных розьніцаў, абапёртых выключна на вонкавай форме і некаторых недакладных фармуляваньнях догмаў, ведамых выключна тэарэтыкам царкоўных канонаў».

З гэтага сказу відаць, што сп. Грынеў у вельмі малой зажыласьці і з догмамі і з царкоўнымі канонамі. Калі ён не сьвятар, дык ведаючы рэлігійную культуру некаторых з нашай інтэлігенцыі, цяжка ад яе вымагаць большай прэцызіі. Дзівіць нас толькі сьмеласьць, што сп. Грынеў, не разьбіраючыся ў розьніцы паміж канонамі й догмай, бярэцца да напісаньня рэцэпту з мэтай ліквідацыі рэлігійных розьніцаў.

У кажным выпадку мы зь ім пагаджаемся, што ліквідацыя рэлігійнай разьдзельнасьці павінна наступіць. Толькі мы такой думкі, што рэлігійнае задзіночаньне павінна праводзіцца спосабам такім, які згодны з навукай Хрыста і ягонай Царквы. Навука Хрыста і яго Царква ёсьць адзінай для ўсіх. На жаль, ня ўсе толькі маюць добрую волю знайсьці праўду.

Закончым наш артыкул славамі ведамага дзеяча й патрыёты кс. Адама Станкевіча:

«З паходжаньня сьв. Юзафат быў Украінцам. Працаваў, як апостал, выключна на Беларусі. У працы сваей шырока карыстаўся беларускай мовай. Пабеларуску гаварыў казаньні і пабеларуску пісаў для народу рэлігійныя кніжкі. Паў з рук сваіх братоў Беларусаў. Было гэта вялікае непаразуменьне. Беларусы, мардуючы сьв. Юзафата, „ня ведалі, што рабілі". Ідэя, за якую памёр сьв. Юзафат, ёсьць для беларускага народу найвялікшай і найбольш прынцыповай. Бо што-ж можа быць для гэтага народу важнейшым, як ідэя адзінства хрысьціянскай веры ў ім, ідэя адзінства душы народнай, ідэя адзінства і суцэльнасьці беларускай нацыі і культуры?

А за гэта-ж усё сьв. Юзафат праліў сваю кроў на беларускую зямельку, як сапраўды добры пастыр, які душу сваю кладзе за авечкі свае.

Дай-жа Божа, каб кроў сьв. Юзафата, у якой скрыта вялікая беларуская рэлігійная і нацыянальная праўда, марна ня зьгінула і дала ў сваім часе належны плод...» (Кс. Ад. Станкевіч, Божае Слова. Вільня 1938, бал. 362).

**Лёндан, 8. 12. 1953.** **а. Ч. Сіповіч**

# Літаратурны Конкурс

**ЛІТАРАТУРНАЯ СЭКЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

абвяшчае

**КОНКУРС НА БЕЛАРУСКАЕ АПАВЯДАНЬНЕ**

Дасланыя апавяданьні будуць разгледжаныя адмысловай камісіяй і за найлепшыя творы прызначаныя гэткія ўзнагароды:

**1. — 50 даляраў,**
**2. — 30 даляраў,**
**3. — 20 даляраў.**

**УМОВЫ КОНКУРСУ:**

1. Прынятыя будуць толькі апавяданьні яшчэ нідзе ня друкаваныя.
2. Пажадана, каб тэкст апавяданьня быў перапісаны машынкаю на аднэй балоне праз радок.
3. Літаратурная Сэкцыя БІНіМ засьцерагае сабе вылучнае права першадруку ўзнагароджаных апавяданьняў.
4. Апавяданьні маюць быць падпісаныя ўмоўным імям (псэўдонімам) і пераслнаыя на адрыс паэты Р. Крушыны: G. Kazak, 191 Henry St., New York 2, N. Y. Разам з творам, у заклееным канвэрце, падпісаным тым-жа ўмоўным імям, трэба пераслаць запраўдныя імя, прозьвішча й адрыс аўтара. Адзін аўтар можа прыслаць і колькі апавяданьняў.
5. Апошні тэрмін прысланьня рукапісаў — 1 красавіка 1954 г. Усе аўтары заклікаюцца прысылаць свае творы да гэтага часу.

**Літаратурная Сэкцыя БІНіМ**

# Аб чым крычалі мерцьвякі

**УРЫВАК З АПОВЕСЬЦІ**

**«ЦІХАЯ РУБА»*)**

І-ы-ых! І-ы-ых!
Мы. братка, плытагоны,
Плывуць нашы загоны.
Адна шапка на двох!
Камізэлька на трох!
І-ы-ых! І-ы-ых!

Зранку зноў, паводля дзедавых прыкметаў, закрапіла імжака й неўзабаве скончылася, але дзед. зірнуўшы на белую кучомку далёкае гары Дабэрскольн, кажа да мяне:

— Бачыш, на Лысай Гары туман. Значыцца і ў парогах туман. Трэба пачакаць.

Цэлы дзень курыўся туманамі Дабэрскольн і, праверыўшы яшчэ раз моц усіх клібін і насекшы новых шастоў, я пайшоў да плытагонавых могліц. Доўга падымаўся дагары і нарэшце ўваходзіў на неабгароджаныя могліцы з шматлікімі магілкамі, зь якіх некаторыя падобныя ўжо да кротавых купінкаў. Над магілкай лётніка звычайна становяць прапэлер, на магілу жаўнера кладуць ягоную шапку, а над магіламі плытагонаў стаяць зробленыя з абгрызаных скаламі сохаў і дрыгалкаў крыжы зь няпісьменымі напісамі. бо няма сярод плытагонаў дацэнтаў. Пад першым насыпам. парослым дмухаўцом, ляжыць:

Рыгор Ивокшта
Хрысьцянин дзярэўни Сивец
Вялискага уезда.
Хай яму пухам зямля.

Пад сумежным крыжам знайшоў неспадзяваны прытулак:

Піліп Скроб
з вёскі Грынькі
Віцебскай Губэрні.

І вакол цэлы гай зьвязаных клібінамі сохаў, дрыгалкаў, шастоў, вёслаў — крыжоў. Грамада плытагонў — бельскіх, парэцкіх вяліскіх, сураскіх, віцебскіх. Няўпрыцям я дайшоў да яру, дзе над магілай на водшыбе заўважыў напіс:

Паулюк Дарэмный.

Зь вёскі ён ці з гораду, юнак ён ці дзед, галасілі па ім ці не — нічога невядома. А ад магілы Паўлюка Дарэмнага, якую ў студзені заносяць завеі, а ў верасьні мятуліца, відаць направа далёкія Крэйцбург і Якабштадт, відаць налева, у туманох, Дабэрскольн, чуваць, як без адпачынку грымяць воддаль Перакагрыж і Пахвальніца, а ў самым падгор'і шуміць, уліваючы ў Дзьвіну свае вясьняныя каламутныя воды, заўсёды вясёлы Сусей.

У туманавай сьвітцы прыйшоў наступны золкі заранак, але як толькі з-за вёсак Задзьвіньня ўзыйшло сонца, адразу задаў драпака па плыні туман, і неўзабаве заблішчэла чыстая крэйдавая вяршаліна Дабэрскольна. Дзед Самусь, пільна замацаваўшы будку, каб яе ня змыла ў парогах з ганка, перахрысьціўся на крыж Паўлюка Дарэмнага і крычыць:

— Плюй на далані, Андрэй! Цяпер, калі пройдзем, дапамажы Божа, гэты самы Смычкоў перавоз, дык увечары можа будзем аж пад Фрыдрыхштатам.

Выцягнуўшы з узьбярэжнага жвіру саху, дзед ледзь-ледзь толькі ўхапіў ускочыць на ганок, які ўздрыгнуў ад імпэту ракі і хутка, усё павялічваючы й павялічваючы рух, паймчаўся наперад.

— І-ы-ых! І-ы-ых!

Моцна трымаючы ў вапухлых руках ручку трохпудовае дрыгалкі. я выцягваю з вады ў паветра ейны канец, які адразу робіцца аж занадта цяжкім. Потым схіліўшыся ў крук, і высака ўзьняўшы дрыгалку над вадой, раблю два крокі па сьлізкаму бярвеньню ўпярод. А потым зноў апушчаю дрыгалку і, адштурхнуўшыся нагой ад перакладзіны і перахіліўшыся крукам у другі бок, раблю стольк-ж крокаў, адкінуўшыся ўсім целам назад, заграбаючы дрыгалкай ваду. Пасьля гэтага рыпяць клібіны паміж гленямі і яшчэ больш рыпяць дрыгалкі:

— І-ы-ых! І-ы-ых!

Час ад часу дзед Самусь крычыць:

— Андрэй, бі на Літоў!

Тады я трымаюся левага боку роднае няўтрапеннае Дзьвіны, а калі ён гукне:

— Андрэй, бі на Русь! —

— дык я пасьля гэтага раблю на ганку два крокі ў другі бок, каб прыбіць яго да правага ўзьбярэжжа. І калі гэтак і калі ня гэтак, і калі на Літоў і калі на Русь, дык усёроўна рыпяць дрыгалкі сваю адвечную, нам абодвум — дзеду Самусю ды ягонаму ўнуку Андрэю Шабэце ад калыскі да труны знаёмую песьню:

— І-ы-ых! І-ы-ых!

Наш ганок прабягае паўз крушні замку крыжакоў Лянэвардэн, а на тамабочным беразе зноў могліцы плытагонаў. Зноў крыжы з сохаў, крыжы з дрыгалкаў, крыжы з шастоў.

Нібы гэтае мне марылася, нібы гэтае мне сьнілася, але я галасна, як толькі мага, крычу:

— Браткі-і, бі на Літо-оў!

І вось, з-пад магільных купінак падымаюцца марудна — сьпярша адзін, потым другі, дзесяткі, сотні. У крыві, у горкім поце, у жабрацкіх лахманох, у пашматаных бахілках. Зьліваючы адрозныя спачатку стогны ў вадзін суцэльны лямант, пытаюць:

— Хто гэта не дае нам адпачынку і ў труне?!

І юнак, поўны жаху перад грамадой мерцьвякоў, я ўсё-ж гукаю:

— Што вас, дзядзькі, адарвала ад вёсак і паклала вось на гэтым узьбярэжжы? Чаму вы, браткі, гэтак забавіліся паваротам? Чакаюць! Галосяць!

І першым адказвае доўгабароды дзед, увесь у крыві, з адарванай рукой. І ягоны крык падхопліваюць усе мерцьвякі:

— Змаганьне за кавалак хлеба! Хлеба зь мязгой! Хлеба з паловай! Хлеба зь лебядой! За акраец хлеба!

1931 г. **Юрка Віцбіч**

---

*) Ціхая Руба — адзін з найбольш небясьпечных парогаў на Дзьвіне. Аповесьць была надрукаваная ў літаратурным часапісе «Полымя Рэвалюцыі» за 1932 г.

# Да праблемы беларускага казацтва

**ПРАФ. Л. АКІНШЭВІЧ: КРЫВІЦКАЕ КАЗАЦТВА Ў XVII СТ. («САКАВІК», № 1/2, 1948 Г.)**
**(З РЭФЭРАТУ, ЧЫТАНАГА 17. X. 1953 У КРЫВІЦКІМ НАВУКОВЫМ Т-ВЕ ПР. СКАРЫНЫ Ў НЬЮ ЁРКУ)**

**АД РЭДАКЦЫІ: Ніжэйшая рэцэнзія Б. Скарыніча на артыкул праф. Л. Акіншэвіча аб беларускім казацтве зьяўляецца моцна спозьненай, бо менаваны артыкул паявіўся пяць год таму назад, у 1948 г. Аднак зьмяшчаем яе ахвотна з тае прычыны, што рэцэнзія гэтая, як чытач пераканаецца, ня перастаючы быць рэцэнзіяй, зьяўляецца аднача сна незалежным ад працы праф. Акіншэвіча артыкулам, які прыносіць шмат цікавых дадзеных аб мала дагэтуль распрацаванай у нас тэме, якой зьяўляецца беларускае казацтва.**

*

З прычыны зялезнае запоны, праходзячай перад вайною па лініі Рыскае мяжы, Беларусы з так званае*) заходняе Беларусі могуць ня ведаць, што гэта ня першы артыкул праф. Л. Акіншэвіча на беларускую тэму і ў беларускай мове; у дваццатых гадох друкаваліся ягоныя артыкулы на беларускія тэмы ў «Полымі», менскім часапісе беларускім. Могуць таксама ня ведаць, што сьвядомым Беларусам ён ня з эміграцыйнага часу, а здаўна, хіба яшчэ із студэнцкіх часоў, а мо' й раней, бо першыя зацікаўленьні Беларусяй ён пераняў ад свайго бацькі, каторы зваў Беларусь сваёй бацькаўшчынаю. Праф. Акіншэвіч належа да тых сьвядомых Беларусаў, каторых дыкжэ не ставала і яшчэ не стае ў беларускім руху. Прычынаю гэтага ёсьць месца ягонага нараджэньня, з чым, хіба, былі зьвязаныя і месцы ягоных студыяў і пасьлей навуковае працы. Паходзіць ён з Гомельшчыны, а знае добра і беларускую прастору на паўдня ад яе, значыцца, галоўна паўночную Чарнігаўшчыну аж да ракі Цецерава. Праўда, прасьле першае сьветнае вайны Гомельшчына перастала быць паветам, што аставаўся ў руху беларускім, але Чарнігаўшчына такою краінаю засталася, ня кажучы ўжо пра Аўруччыну, край уздоўж ракі Вужа. Акіншэвіч, адылі, як кабінэтны вучоны, быў-бы асабліва карысны ў цэнтры беларускае працы, зн. у Менску. Калі-б ён там быў паміж дзьвюма сьветнымі войнамі, дык некаторыя справы, як навука гісторыі беларускага права і праўніцкая тэрміналёгія шмат ляпей выглядалі-б. Ягоны падыход да праўніцкае тэрміналёгіі зусім чыста правільны.

І ня першы ў «Сакавіку» артыкул Акіншэвіча пра беларускае казацтва. Ягоныя артыкулы на гэтую тэму друкаваліся ў дваццатых гадох у менаваным менскім «Полымі». Акіншэвіч адзіны, што адкрыў у нас беларускае казацтва і паказаў прычыны ягонага паўстаньня. А гэта мае не малое значэньне ў беларускай гісторыяграфіі.

Калі мова пра казакоў, дык дазвольце пра адхін, ня зусім зьвязаны з тэмаю. Украінскі рамантызм паэтызаваў казакоў. Расейская літаратура ня выхваляла, нат ня ставілася пазытыўна да казакоў донскіх, ані да іхнае масы, ані да правадыроў — Сьценькі Разіна, Булавіна, Пугачова, бо з донскімі казакамі Масква ваявала, а, пасьля перамогі над імі, іхных правадыроў вазіла на зьдзек у зялезнай клетцы і потым чацьвертавала. Выняткам быў Ярмак, каторы, будучы на службе ў купцоў Строганавых, заваяваў Маскве Сібір. Але да казакоў украінскіх, часу быцьця іх пад Польшчаю, расейская літаратура накш ставілася і памагала Украінцам іх паэтызаваць, асабліва-ж гэта рабілі пішучыя парасейску Украінцы. Пад уплывам такое падвойнае паэтызацыі і беларускія чытачы былі пераняўшы пагляд на казакоў як на штось лепшае за сялянскае ці мяшчанскае жыхарства Беларусі. Акіншэвіч накшага пра казацтва пагляду. У гэтым артыкуле ён выясьняе, што ўзьнік казацтва не залежыў ад нацыянальнага характару народу, ад яго вышшасьці або нішшасьці. Узьнік казацтва ён высьняае прычынамі геаграфічнымі: казакі маглі паўстаць на «дзікім полю», вось-жа на прасторы асталай, неарганізаванай, дзе, з другога боку, трэ было сьцерагчыся й бараніцца ад цікуючага на здабычу такога-ж дзікога Татарына. Да гэтага можна яшчэ дадаць, што й ня без татарскага ўплыву ўзьнікла ўкраінскае казацтва: жывучы на пагранічча з Татарамі, казакі пераймалі спосаб жыцьця й ваяваньня татарскага, ды была й этнічная прымешка элемэнту татарскага (не адзіны быў казак **Мамай** сярод украінскага казацтва!). Назоў свой казакі атрымалі таксама ад Татар.

У разгляданым артыкуле Акіншэвіч дае ацэну казацтва і беларускага неказацкага жыхарства у гледзішча культурнага й грамадзкага. Ён піша: ня так, як Украіна, Беларусь ня мела ў сябе казацкае арганізацыі. **У гэтых абставінах яна стаяла ў вадным сьцягу з краямі Заходняе Эўропы.** Мы ўжо ведаем прычыну гэтага: вайсковая казацкая арганізацыя — гэта арыгінальны выснаў асаблівых абставінаў на незаселеных шырокіх сьцяпох. **Заселеная здаўна сталым жыхарствам тэрыторыя Беларусі захоўвала свае сталыя формы жыцьця. Тут сёлы, мястэчкі й месты стаялі вякамі. Тут, у сталай працы ў родным куце, пражывала пакаленьне за пакаленьнем. Стыль жыцьця дзеля гэтага быў тут чыста накшы** (падчыркненьні мае — Б. С.) за шырокае, з размахам, але тым-жа часам і поўнае нясупакою жыцьцё прывольнае Украіны. Сказана тут вельмі асьцярожна, але й зусім ясна на карысьць беларускага жыхарства, дарма што й Украіна пахвалена. У іншай, украінскай сваёй працы пра «знатнае казацтва» ў украінскай гэтманшчыне Акіншэвіч паказаў, як неказацкае беларускае жыхарства паўночнае Чарнігаўшчыны й Старадубшчыны мела пазытыўны арганізацыйны ўплыў у ўкраінскай гэтманшчыне.

У надрукаваным у «Сакавіку» артыкуле праф. Акіншэвіч разглядае падзеі ў Беларусі, што былі за вайны Беларусі з Масквою 1654-1667 г.г. У гэтую вайну хаўрусьніцаю Масквы была Ўкраіна, а Польшча, задзіночаная зь Беларусяй Люблінскай вуніяй, ішла разам зь Беларусяй. Якое было тады палажэньне палітычнае Ўкраіны й Беларусі? Украіна, што дагэтуль была звычайнай польскай правінцыяй, у 1654 годзе Пераяслаўскай умоваю паддалася пад маскоўскі пратэктарат, маскоўскі цар стаўся сувэрэнам Украіны, а ўкраінські гэтман ягоным васалем, накш кажучы, з праўнага боку Ўкраіна сталася аўтаномнай адзінкаю ў маскоўскім гаспадарстве. З боку фактычнага справа была шмат горшая. Адно й другое аўтар адзначае.

Беларусь пад назовам «Вялікае Княства Літоўскае» была гаспадарствам незалежным, канфэдэрацыйна на роўных правох задзіночаным з Польшчаю. Вось-жа з гледзішча праўнага палажэньне зусім добрае і не раўня палажэньню Ўкраіны. Але фактычнае палажэньне было не такое добрае, як палажэньне праўнае. Дзьве гэтага былі прычыны. Аднэй зь іх было тое, што ў часе Люблінскай вуніі 1569 г. уся Ўкраіна ды часьць этнаграфічна беларускае зямлі ( часьць Падляшша зь Беластокам і Аўгустовам, паўднёвая часьць усходняга Палесься — прастора ўздоўж ракі Вужа, дзе Чарнабыль, Аўруч і інш., ды часьць Северщчыны зь Любечам і інш.) адышлі да Польшчы. З гэтае прычыны сілы двух партнэраў былі ня роўныя, і дужшы польскі партнэр рабіў націск на слабшага беларускага. Да гэтага прыходзіла яшчэ тое, што Польшча была бясьпечная на сваім захадзе, бо Нямеччына была падзяліўшыся на дробныя гаспадарствы, а тымчасам Беларусь мусіла весьці доўгатрывалыя войны з Масквою, у каторых Палякі ніколі даволі не памагалі, а рэдчас і ані не памагалі. Дзеля менаванага Польшча ня толькі магла рабіць фізычны й матар'яльны націск на задзіночанае зь ёй беларускае гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае, але й вольнае ад ваенных цяжараў польскае панства ў багатым бязьдзеяньню дэмаралізацыйна ўплывала на паноў беларускіх. Апрача таго, анархічны характар польскага народу ствараў рэдчас такія прыпадкі, што Беларусы ня толькі мусілі заставацца адны на маскоўскім фроньце, але яшчэ й пасылаць з гэтага фронту часьць свайго войска дзеля ўстанаўленьня парадку ў Польшчы. Вось-жа палажэньне фактычнае было горшае за аднак астацца ў заходняй Афрыцы, дзе палажэньне праўнае, адылі й фактычны нацыянальна-палітычны стан Беларусі быў такі, пра каторы Ўкраінцы маглі толькі лятуцець. Але гэтага праўнага й фактычнага стану Беларусі аўтар не разумее, прынамся разумее яго не даволі. Праўда, ён зазначае пра апрычонае й лепшае палажэньне Беларусі чымся Ўкраіны, але зазначае гэта недаволі і мала пераконуюча, дый з таго, што зазначае, ня робіць ніякіх вывадаў. На фронце беларускім маскоўская і ўкраінская арміі ваююць із арміяй Вялікага Княства Літоўскага, з арміяй беларускай, а тымчасам паводля Акіншэвіча гэтая армія быццам Беларусам чужая і калі-б Беларусы дзеілі супраць яе (**калі-б**, бо запраўды супраць свае арміі яны ня выступалі), дык яны, паводля Акіншэвіча, былі-б дзейныя пабеларуску, былі-б нат беларускімі патрыётамі.

Але пярэйдзем да апісаньня падзеяў, як іх перадае сам аўтар. У тым часе, як маскоўскае войска доўга задзержылася пад Смаленскам, украінская армія заняла вялікую часьць сярэдняе Беларусі ўлучна з Магілевам.

Паступак жыхарства акупаванае няпрыяцелем мясцовасьці нельга ацэньваць паступкам людзёў краю вольнага ад няпрыяцеля. Жыхары акупаванае мясцовасьці ня могуць заявіць у вочы свайму акупанту, што яны будуць зь ім ваяваць; найболей, што яны могуць сказаць — гэта, што яны будуць пасыўныя. У жыхароў акупаванае краіны часта паўстаюць сумлевы, няпэўнасьці, страхі, чым і выясьняецца іх нярэдка нявыдзержаны з гледзішча нацыянальна-палітычнага паступак. Нат прысяга на вернасьць, зробленая пад фізычнаю прынукаю або пад прынукаю акупацыйных умоваў, належыць да досыць звычайных і не ўважаецца за зраду свайму народу. Але бывае й так, што жыхары акупаванага краю прыкідаюцца прыяцелямі акупанта, каб усьцерагчыся ад перасьледаваньня, а, з другога боку, мець большую магчымасьць яму шкодзіць. Вось гэтых асаблівых дачыненьняў у вакупаваных мясцовасьцях і ня ўзяў пад увагу аўтар артыкулу.

(Заканчаньне ў наступным нумары)

*) «т. зв.», бо «заходняй» часьць Беларусі можа быць званая толькі з гледзішча тымчасовай палітычнай граніцы, што дзяліла Беларусь паміж дзьвюма сьветнымі войнамі. Паветы Браслаўскі, Дзісьненскі й Вялейскі з гледзішча гістарычнага належаць да сярэдняе часьці Беларусі: яны ўходзілі ў васноўнае ядро Вялікага Княства Полацкага; гэтыя-ж паветы ды яшчэ Валожынскі й Смаргонская воласьць Ашмянскага з гледзішча дыялекталягічнага належаць таксама да сярэдняе часьці Беларусі.

# Непаразуменьне ці зла воля?

**(АДКАЗ НА ЗАЦЕМКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў «БОЖЫМ ШЛЯХАМ», № 56)**

Просім прабачэньня за такі загаловак нашага адказу, але ён насоўваецца самахоць пасьля прачытаньня ў «Божым Шляхам» справаздачы з чацьвертага кангрэсу ЦБАА, які адбыўся 17, 18 і 19 кастрычніка 1953 г. ў Лювэне.

Памінаючы недакладнасьць справаздачы, у якой зусім не гаворыцца аб новавыбранай управе і закраліся памылковыя дадзеныя аб ЦБАА, якое было заснаванае ня ў 1949, але ў 1946 годзе, мы знаходзім там куды большыя кур'ёзы. Там, паміж іншым, пасьля сьцьверджаньня вялікіх дасягненьняў і праробленай працы старой управай, чытаем наступнае: «Аднак прыкра было даведацца, што ўправа ЦБАА самавольна і **без патрэбы** (падчыркнена аўтарамі) павялічыла свой склад, відавочна на тое, **каб мець больш галасоў** (падчыркнена аўтарамі) і з гэтаю мэтай перад самым зьездам прыняла Гурток Студэнцкай Самадзейнасьці Студэнцкі Ансамбль, як акадэміцкую арганізацыю, у сябры ЦБАА, затое не запрасіла на зьезд некаторых сваіх праўных сяброў і сам зьезд склікалі так, што гэта ўласьціва быў сход дэлегатаў з Бэльгіі, якія кумулявалі галасы адсутных арганізацыяў . . .»

Далей, робячы закід, што зьезд мог быць скліканы раней з асабістай прысутнасьцю паасобных дэлегатаў, «Божым Шляхам» піша: «Нельга прамаўчаць аб падобных фактах, калі яны дзеюцца там, дзе маюць выпрабляцца будучыя беларускія дзеячы, бо той, хто будзе трымацца падобнай практыкі ў арганізацыйным жыцьці, тым самым маральна пазбавіць сябе права выступаць супраць тых камэдыяў з выбарамі, якія практыкуюць бальшавікі ў паняволенай Бацькаўшчыне, а да гэтага дапусьціць ніяк нельга». Іначай кажучы, паводля аўтара, гэтак падрыхтаваньне, як і правядзеньне кангрэсу адбылося згодна з бальшавіцкімі мэтадамі.

Трэба адцеміць, што Рэдактар «Божым Шляхам» быў сам прысутны на кангрэсе, запрошаны ўправай, як дэлегат з Францыі, паколькі ад 1951 году там ня было афіцыйнага прадстаўніка ЦБАА. Факт зьмяшчэньня такой зацемкі ў часапісе дазваляе дадумоўвацца, што ягоны рэдактар, В. П. а. Леў Гарошка або поўнасьцю пагаджаецца зь ейным зьместам або зьяўляецца непасрэдным ейным аўтарам, таму маральная адказнасьць за зьмест кладзецца поўнасьцю на яго.

Мы дазволім сабе даць некалькі словаў выясьненьня што да пастаўленых закідаў. Праўдай ёсьць, што ўправа ЦБАА дакааптавала кал. Запрудніка як сябру ўправы ў ваддзел вонкавых сувязяў, паколькі фактычны кіраўнік гэным аддзелам заступіў адсутнага скарбніка ўправы ЦБАА др-а Набагеза. Прычынай гэтага быў факт выбару кал. Запрудніка заступнікам старшыні ICESO ў Мюнхэне ў 1951 г. Гэтая функцыя дала яму магчымасьць шырэйшага дзеяньня й рэпрэзэнтаваньня ЦБАА на міжнародным студэнцкім форуме. Управа ЦБАА, маючы наўвеце ўзмацненьне яго аўтарытэту на ўспомненым міжнародным форуме, наважыла дакааптаваць яго, як фактычнага сябру ўраду да часу апрабацыі агульным зьездам. Няхай чытач асудзіць сам, на колькі гэта было зроблена «самавольна і без патрэбы». Але вось паўстае пытаньне, каму і на што быў патрэбны адзін голас больш, як цьвердзіць Пав. а. Гарошка? Відавочна ня старшыні ЦБАА, бо, як бачым, ён нат не кандыдаваў на новага старшыню ў часе апошняга кангрэсу. Калі-ж гэны голас і быў-бы патрэбны на кангрэсе, які некалі меў адбыцца, дык запраўды тут вымагалася вялікай пэрфідыі і надзвычай тонкай калькуляцыі, каб гэта прадбачыць. Кангрэс аднак апрабаваў пастанову ўправы і прызнаў кал. Запрудніка, як фактычнага сябру ўправы ЦБАА. Адцемім пры гэтым, што кал. Запруднік ня прымаў удзелу ў галасаваньні. Другі закід прыняцьця Студэнцкага Ансамблю, у якім таксама аўтар дашукваецца «здабываньня галасоў», зьяўляецца ня менш беспадстаўным за першы. Студэнцкі Ансамбль паводля свайго статуту ёсьць акадэміцкай арганізацыяй, у якую ўваходзяць, апрача студэнтаў (бальшыня), таксама й былыя студэнты, сяньня ўжо акадэмікі.

Урад, атрымаўшы заяву ад Студэнцкага Ансамблю з просьбай аб прыняцьці яго ў запраўдныя сябры, палагодзіў яе пазытыўна, але з таго гледзішча, што незадоўга меў адбыцца кангрэс, засьцярогся, што канчальную пастанову прыме кангрэс. Гэтая справа была пастаўленая пад дыскусію кангрэсу, удзельнікі якога бальшынёй галасоў апрабавалі прыняцьце Ансамблю ў запраўдныя сябры (дэлегаты ад Ансамблю не галасавалі). Яўнай няпраўдай зьяўляецца цьверджаньне, што некаторыя запраўдныя сябры ЦБАА ня былі запрошаныя на кангрэс. Яшчэ за тры месяцы да кангрэсу ўсе бяз выключэньня аддзелы ЦБАА былі паведамлены аб тэрміне й павестцы дня кангрэсу і ўсе яны прыслалі пісьмова свае пажаданьні і паўнамоцтвы на рэпрэзэнтаваньне іх на кангрэсе ЦБАА. Выключэньнем быў былы сябра ўправы а. Ч. Сіповіч, які ў вапошні дзень перад кангрэсам паведаміў, што зь незалежных ад яго прычынаў прыехаць ня зможа і даручыў рэпрэзэнтаваць яго кал. Кукелю. Відавочна з тых самых прычынаў ня мог адпісаць на працягу трох месяцаў на паведамленьне ўправы аб кангрэсе. Разам з Пав. а. Гарошкам усе мы шкадуем, што не маглі прыехаць асабіста дэлегаты з ЗША, Гішпаніі і Італіі, але ані ЦБАА, ані паасобныя аддзелы ня дыспанавалі, відавочна, адпаведнымі фінансавымі рэсурсамі, каб гэта зрэалізаваць. Ведаючы дакладна матарыяльнае становішча ЦБАА, беспадстаўным ёсьць цьверджаньне, што ў мінулым былі магчымасьці склікаць кангрэс з прысутнасьцю ўсіх прадстаўнікоў ад паасобных арганізацыяў. На працягу апошніх двух гадоў былі ўрад ЦБАА намагаўся гэта зрэалізаваць, але вышэй успомненыя абставіны не дазволілі яму на гэта.

Астаецца адказаць яшчэ на адзін апошні закід, пайменна — бальшавіцкіх мэтадаў у праводжаньні кангрэсу. Мы былі-б яшчэ сьхільныя шукаць нейкага непаразуменьня, калі-б ня гэтае апошняе. Мы далёка ад таго, каб цьвердзіць, што такі закід зьяўляецца якраз адным з мэтадаў, практыкаваных у таталітарных сыстэмах, дзе разьлічваецца на нясьведамасьць і незарыентаванасьць масаў і выходзіцца з гледзішча, што чым большая мана, тым хутчэй у яе паверацаь, але з сумам мусім сканстатаваць відавочную наяўнасьць злое волі з боку рэдакцыі агульна паважанага рэлігійнага часапісу, якім зьяўляецца «Божым Шляхам». Прыкра тым больш, што гэта здарылася ў часапісе, якога рэдактарамі зьяўляюцца якраз духоўныя асобы, ад якіх у першую чаргу трэба было-б спадзявацца аб'ектыўнай праўды. Дазволім сабе выказаць надзею й пажаданьне, што ў будучыні падобныя рэчы больш не паўтарацца. А новай управе ЦБАА пажадаем вучыцца на памылках старой і ня ўступіць ёй у працы і дасягненьнях.

**Старшыня 4-га Кангрэсу ЦБАА**
**А. Марговіч**
**Старшыня былай Управы ЦБАА**
**др. Б. Рагуля**

**ЧЫТАНЬНЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ЗАДАРМА — ЗЯЎЛЯЕЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ПРАСТУПКАМ**

**ВЫПІСВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

**БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНЫ ЧАСАПІС**

Літаратурная Сэкцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва пачынае выдаваць з пачаткам 1954 г. літаратурна-мастацкі часапіс.

У сувязі з гэтым Літаратурная Сэкцыя БІНіМ заклікае ўсіх беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў, крытыкаў прысылаць свае творы для друку ў часапісе.

Творы просім слаць на адрыс пасты Рыгора Крушыны: G. Kazak, 191 Henry St., New York 2, N. Y.

**Літаратурная Сэкцыя БІНіМ**

**Калядны падарак!**

**Жадаючых атрымаць Евангельле Новага Запавету Госпада нашага Ісуса Хрыста і іншую рэлігійную літаратуру ў беларускай мове прашу зьвяртацца на наступны адрас:**

**Petro Pachniuk, DP-Lager, Bl. 2/19. (23) Marx, Kr. Wittmund. Germany.**

**Прашу паважных Чытачоў паведаміць сваіх знаёмых аб магчымасьці бясплатнага атрыманьня Новага Запавету.**

**П. Пахнюк**

## ШУКАЮЦЬ

**Брата Кіраенку Васіля,** нар. 1920 г., зь вёскі Плаўнік Чашніцкага раёну, які служыў на пачатку вайны ў чырвонай арміі, шукае брат Іван. Весткі слаць на адрас:

Mr. I. Kirajenko, Rue Ferd. Nicolay 81/2 Seraing s/M. Belgique.

*

**Адама Таранду** зь мястэчка Ляхавічы Баранавіцкай акругі, які праўдападобна знаходзіцца ў Канадзе, шукае Пятрусь Шкляньнік. Весткі слаць на Прадстаўніцтва «Бацькаўшчыны» ў ЗША.

*

**Міхася Вінаграда** зь Лізараўшчыны Гарадзіскага раёну, які апошнім часам (1944 г.) быў у Мюльгаўзэне (Эльзас) — шукае Міхась Гасьціла. Весткі слаць на адрас: Mr. Michaś Hascila, Box 129, Snow Lake, Manitoba. Canada.

## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
a) **Zygfryd Puzowski,** 158, rue Jules Guesde Levaillois-Perret (Seine).
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. W. Nowicki,** 142 Gladstone Ave, Toronto, Ont.
b) **Mr. Franz Hankievich,** 3701 St. Dominique St., Montreal, Q.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec, 2502** W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў просім усіх нашых Прадстаўнікоў выручаныя за газэту грошы, як і за выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі, перасылаць на адрас нашага фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі:**
**Janka Žučka,** 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.